# Тыднёвік Магілёўскі

№ 14 (155) 5 – 11 красавіка 2002 г. Кошт 100 руб.

## Восем чалавек ратуюць гарадзенскае сумленьне

***На 9-ае красавіка прызначаны суд над журналістамі гарадзенскай "Пагоні" Міколам Маркевічам і Паўлам Мажэйкам. Разгляд справы адбудзецца ў судзе Ленінскага раёну Горадні пад старшынствам судзьдзі Мікалая Сяргейкі.***

***Тым часам у горадзе на пачатку перадсудовага тыдня прайшоў несанкцыянаваны пікет у абарону журналістаў. У панядзелак побач з будынкам аблвыканкаму восем гарадзенцаў разгарнулі некалькі плякатаў з мэтай прыцягненьня ўвагі мінакоў да сытуацыі, якая разгортваецца вакол зачыненай уладамі газэты. На плякатах можна было прачытаць тэксты наступнага зьместу: "Сёньня – Мажэйка і Маркевіч. Хто наступны?", "Свабода – гэта свабода слова", "Разам – за ПАГОНЮ!".***

***Спачатку міліцыянты, што ахоўваюць будынак і бліжэйшую тэрыторыю, паводзілі сябе даволі стрымана й пікетоўцам не перашкаджалі. Аднак хутка з аблвыканкаму з патрабаваньнем спыніць недазволены пікет выйшаў кіраўнік абласнога ўпраўленьня інфармацыі і друку Ўладзімер Амелька. Міліцыянты, атрымаўшы ад яго загад дзейнічаць, затрымалі шасьцёх грамадзянаў. Удзельнік акцыі сп.Дулько пры гэтым зазначыў, што і загад аб прыцягненьні журналістаў да суду таксама адпачатку сыходзіць з Гарадзенскага аблвыканкаму. Усяго пікет працягваўся 20 хвілінаў.***

***Паводле www.pahonia.com***




## Забыты ня будзе



Заўтра спаўняецца тры гады з дня сьмерці Генадзя Карпенкі. Ягоныя знаёмыя, блізкія й калегі раніцай гэтага дня ўскладуць кветкі на магілу. У нядзелю, 7-га красавіка, пачынаючы ад 10-й гадзіны, на менскай Кастрычніцкай плошчы і ў Маладзечне (на радзіме Г.Карпенкі) своеасаблівы ланцуг памяці злучыць палітычных паплечнікаў і нашчадкаў Генадзя Карпенкі, аднаго зь першых зачынальнікаў найноўшай беларускай дэмакратыі й проста выдатнага чалавека.

***Паводле www.ucpb.org***

## ШТО НА ТЫДНІ... У БАБРУЙСКУ



***28-га сакавіка пры падтрымцы Праграмы Партнэрства Альянса "Counterpart" сябры грамадзкай ініцыятывы "Свая справа" правялі другое паседжаньне прэс-клюбу.***

Яно было прысьвечанае захаваньню гісторыка-культурнай спадчыны раёну, а ў прыватнасьці – лёсу аднаго з старэйшых гарадзкіх збудаваньняў – Бабруйскай крэпасьці. Прагучала прапанова аб перадачы гэтага будынку, дарэчы, былога кляштара, заснаванага ў 1615г., ва ўласнасьць каталіцкай парахвіі.

Трэба сказаць, што на паседжаньні прысутнічалі нават сталічныя журналісты, а вось спэцыялісты па архітэктуры і ахове гістарычнай спадчыны разам з прадстаўнікамі дзяржаўных арганізацыяў мерапрыемства праігнаравалі.

***На мінулым тыдні адбылася сустрэча кіраўніка бабруйскага аддзяленьня "Белгазпрамбанку" Віктара Карцава з прадстаўнікамі грамадзкіх аб'яднаньняў горада.***

Большасьць прысутных складалі жанчыны. Яны пазнаёміліся з такімі паняцьцямі, як бюджэт, падаткі, крэдыты. Даведаліся, куды лепш укладаць грошы. Эканамічнае навучаньне доўжылася больш за тры гадзіны, а па яго завяршэньні была дасягнутая дамоўленасьць аб далейшых сумесных сустрэчах.

***Віктар КАЧАН***



## Свой погляд на тыдзень вобласьці

**Сталічны Савецкі райвыканкам (!) "дзеля пасьпяховага правядзеньня пасяўной", як сказана ў афіцыйных дакумэнтах, падараваў нашаму Касьцюковіцкаму раёну 6 "Беларусоў". Выканкам той трактары не вырабляе. Грошы ўзяў, зразумела, зь бюджэту. Аднак сумнеўна, каб дэпутаты (а па закону менавіта яны распараджаюцца бюджэтам) далі на гэта дазвол. Значыць, загад паступіў "зьверху". Хто-небудзь іншы гэтымі "напружанымі вясновымі днямі" атрымае загад даць вёсцы паліва, запчасткі, транспарт, людзей... Тут тое дрэнна, што пакуль вёскай будуць апекавацца падобным чынам, яна ніколі ня выйдзе на прасьцяг самастойнага і адказнага жыцьця.**

**Нядаўні Лукашэнкавы візыт у абласны цэнтар зьвязваўся з надзеямі на замежнае інвэставаньне Завода штучнага валакна. Прадпрыемства ўсе апошнія 10 гадоў ня можа знайсьці сабе прыстойнага месца ў эканоміцы. Тут амаль напалову скарацілі працоўны калектыў. Аб'ём вытворчасьці зьнізіўся на 30%. Склад прадукцыі затаварыўся. Сабекошт прадукцыі значна вышэйшы за сусьветныя парамэтры... Была дамоўленасьць наконт набыцьця прадпрыемства швайцарскай фірмай. А Лукашэнку нешта ў апошні момант не спадабалася. Візыт быў, а інвэстараў – няма.**

**У Бабруйску за "кольным сталом" прадстаўнікі мясцовай улады разам з прадстаўнікамі грамадзкіх аб'яднаньняў абмеркавалі стан дзяржаўнай дапамогі інвалідам. Натуральна, стан гэты нікога не задаволіў. Удзельнікі сустрэчы мелі бачаньне праблемаў і, галоўнае, прапанавалі кірункі іх разьвязаньня. Вось толькі ніхто ня ведаў, дзе ўзяць сродкі на вырашэньне праблемаў. Больш пашанцавала Магілёву, які атрымаў грант амэрыкана-эўрапейскай праграмы TASIS на падтрымку інвалідаў, што намагаюцца заняцца прыватным бізнэсам.**

**Высокапастаўленыя чыноўнікі Адміністрацыі краіны апошнім часам (хаця й выбары, здаецца, прайшлі) радуюць цэлыя калектывы шыкоўнымі жэстамі. Прыкладам, нейкай раённай газэце нядаўна сама кіраўнічка Гаспадарчай управы Лукашэнкі падарыла лічбавы фотаапарат. Недзе чытаў у прэсе, бо пра гэта шырока і пранікнёна паведамляецца, пра іншыя падобныя падарункі. А днямі да гэтай своеасаблівай кампаніі далучыўся й чыноўнік апарату саюза Беларусі і Расеі. Выхадзец з Хоцімскага раёну, ён не забыўся на родны кут. Іван Юркін, як завуць гэтага добрага чалавека, падарыў мясцовай лякарні новенькі кампутар. Ад сябе асабіста, за ўласныя грошы?.. Гісторыя, як гаворыцца, пра тое не падае. Аднак нешта падказвае мне, што хоцімскі зямляк ужо здаў у бугалтэрыю "саюза" адпаведны чэк у якасьці справаздачы за паездку на малую радзіму.**

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў Сымон Глазштэйн.*

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА СЯБЕ З НАГОДЫ ВЫБАРАЎ У СУСЕДЗЯЎ

# Розныя тэмпы сталеньня

***Зь відавочным расчараваньнем сустрэлі вынікі ўкраінскіх парлямэнцкіх выбараў расейскі палітычны істэблішмэнт і цэнтральныя расейскія тэлеканалы.***

Яны не наракаюць на парушэньні, якіх было, па прызнаньні міжнародных і ўнутраных назіральнікаў, дастаткова для таго, каб ставіць пад сумнеў ня столькі, відаць, некаторыя выніковыя афіцыйныя дадзеныя, колькі арганізацыю і характар перадвыбарчай кампаніі. Менавіта цягам кампаніі адбываліся ўсе вядомыя "хітрыкі" улады, даведзеныя, дарэчы, у Беларусі да бездакорнасьці і аўтаматызму. Аднак Расеі цяпер не да прынцыповых ацэнак суседніх выбараў з пазыцыі дэмакратычных патрабаваньняў да гэтага важнейшага грамадзкага інстытута.

Бо яна прайграла. Украіна відавочна выбрала ня ўсходні кірунак разьвіцьця, а – эўрапейскі. Выбрала не імкненьне да вяртаньня ў крамлёўскае падначаленьне, а – самастойнасьць. Выбрала не далучэньне да "расейска-беларускай саюзнай дзяржавы", а – сувэрэнітэт.




Шлях, выбраны грамадзянамі Ўкраіны, не абяцае быць лёгкім. Унутраная грамадзка-палітычная сытуацыя яшчэ не выглядае адназначнай. Маскоўскія тэлеканалы, палітыкі і дзяржаўнікі не саступяць бяз спробы рэваншу.

Але сумненьняў, што пераможа ўкраінскі народ, няма. Бо, як паказалі гэтыя выбары, ён сапраўды адчуў сябе народам, а не насельніцтвам. З гэтага адчуваньня і разуменьня й пачынаюцца ў розных краінах цяперашняга сьвету ўсе добрыя перамены.

... Нам гэтага яшчэ прыйдзецца пачакаць.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па пытаньнях палітыкі***

# Тры суполкі аднаго народу

***Летась "Тыднёвік" ахвотна падаваў рэпартажы і фотаздымкі ўдзельнікаў магілёўскай вандроўнай групы аматараў падарожжаў і гісторыі "Чароўны ўспамін". Тое было вялікае падарожжа па Беларусі, Літве і Крыму, прысьвечанае жыцьцю, творчасьці і памяці Максіма Багдановіча... Мінае час, а ўспаміны аб падарожжы не адпускаюць, нават абвастараюцца, і зноў просяцца на паперу. Гэтым разам газэта друкуе чарговыя нататкі Міхася Булавацкага, якім аўтар надаў падзагаловак "Тры ўражаньні ад Крымскай часткі Багдановіцкай вандроўкі".***

**Сэвастопальскае аб'яднаньне беларусаў "Пагоня" імя Максіма Багдановіча ўжо адной сваёй назвай досыць пэўна пазначае характар сваёй дзейнасьці.** Настолькі пэўна, што гэта не засталося па-за ўвагай беларускіх спэцслужбаў, якія паспрабавалі стварыць у Сэвастопалі альтэрнатыўнае аб'яднаньне беларусаў, прыхільных да сёньняшняга рэжыму. Такое аб'яднаньне ўрэшце было створанае, але энэргічныя дзеяньні "пагоняўцаў" не дазволілі яму разьвіцца ў моцную арганізацыю. Частка "альтэрнатыўшчыкаў" кінула гэтую цёмную справу і разышлася па хатах, рэшта працягвае вяла-кволае існаваньне, зрэдчасу зьбіраючыся на папойкі пад савецкія сьвяты.

Кіруе "Пагоняй" наш зямляк, ураджэнец Бялыніцкага раёну Валеры Барташ. Вайсковы лёс закінуў яго ў Сэвастопаль; цяпер ён на цывільнай службе, але прафэсія і легендарная вайсковая мінуўшчына, якою пранізаны кожны камень слаўнага горада, падтрымліваюць ягоную жыцьцёвую бадзёрасьць і загартаванасьць. Праяўляецца гэта ва ўсім – і ў тым, што начоўку нашай групе ён арганізаваў у казармах украінскага ваенна-марскога флоту, і ў тым, што загадаў нам назаўтра ж узяць усе свае сьцягі (натуральна, бел-чырвона-белыя), харугвы ды вымпелы й прайсьці зь імі па гістарычных мясьцінах Сэвастопаля, так ці інакш зьвязаных зь імёнамі беларусаў, і ў яго актыўнасьці па ўсталяваньні ў Балаклаве мэмарыяльнай шыльды Адама Міцкевіча, і ў яго росшуках па беларускай гісторыі Сэвастопаля, і ў шмат чым іншым. На беразе Чарнаморскай бухты мы прыкапалі прывезеныя зь Беларусі камяні – на гэтым месцы паўстане некалі (спадар Барташ упэўнены, што паўстане!) помнік беларусам, што скончылі сваё жыцьцё ў Сэвастопалі.

**Ялцінска-Алушцінскую групу беларусаў узначальвае Віталь Бартохаў.** Тут няма сэвастопальскай экспрэсіі і задзірыстасьці. У Алушце, дзе жыве і працуе Віталь, і ў суседняй Ялце імкнуцца захоўваць палітычны нэўтралітэт, не выказваючы адкрытай прыхільнасьці ні да рэжыму, што ўсталяваўся на Беларусі, ні да апазыцыі. Але тут гучаць беларускія песьні, ладзяцца беларускія сьвяты, пішуцца вершы пра Беларусь. Паслухалі б вы, як сам Віталь Бартохаў чытае вершы Багдановіча! І як ён пяе беларускія песьні!.. Тое, што там жыве беларускі дух і шануецца памяць пра людзей, якімі ганарыцца Беларусь, пацьвярджаецца рознымі фактамі. Вось толькі адзін зь іх: у Ялце існуе літаратурная прэмія імя Максіма Багдановіча. А ці ёсьць такая прэмія ў Беларусі? Сумнае пытаньне...

**Феадосія, магчыма, самы беларускі горад на ўзьбярэжжы Крыма: там жывё некалькі тысяч беларусаў.** І вось тут спэцслужбы могуць пахваліцца: аб'яднаньне беларусаў Феадосіі ўзначальвае былы контар-адмірал, цяперашні дырэктар тытунёвай фабрыкі (адзінага прадпрыемства ў горадзе, якое мае някепскі прыбытак і плоціць больш-менш прыстойныя заробкі), актыўны прыхільнік палітыкі Лукашэнкі. Але і агрэсіўная напорыстасьць тытунёвага адмірала не вынішчае цалкам беларускі дух. І сьведчаньне таму – ліст, які мы атрымалі зь Феадосіі, напісаны на беларускай мове. Аўтарка – Галіна Красоўская – на сустрэчы суполкі з нашай вандроўнай групай, хвалюючыся, прачытала Багдановічаву "Пагоню", хаця ёй спрабавалі перашкодзіць зрабіць гэта. Ніжэй падаю скарочаны зьмест яе ліста.

***Міхась БУЛАВАЦКІ***

## ЛІСТ З КРЫМУ

# Цёплыя словы да Бацькаўшчыны

... Вялікі дзякуй за дасланыя фотаздымкі і кнігі. Я і мой муж Уладзімер (таксама беларус) прачыталі "Адкуль наш род" спадара Арлова па некалькі разоў. Зараз гэтую кнігу чытае сям'я майго суседа Міколы. Ён сам хахол, але яго жонка – беларуска. Шкада, што мой сын і ўнукі жывуць у Сімфэропалі... Калі гэтая кніга патрапіць у рукі кіраўніцтва нашай суполкі, то больш яе ніхто не пабачыць. Не зьдзіўляйцеся, але гэта так. На дзень славянскага пісьменства мне забаранялі чытаць "Пагоню" і "Касьцёл сьвятой Ганны", а гэта ж было мерапрыемства памяці М.Багдановіча... Але я ўсё-адно гэтыя вершы прачытала! Па заканчэньні сустрэчы мяне адчыталі: чаго, маўляў, я вылезла са сваёй "Пагоняй", маўляў, усім было "стыдно" за мяне...

19 студзеня мы сустракаліся (сваёй суполкай) за сьвяточным сталом, і адзін зь сяброў пачаў пераконваць мяне, што М.Агінскі – гэта польскі кампазытар. Піліся чаркі і гучалі "здравіцы" за прэзыдэнта Беларусі, самага разумнага. Зараз я ўжо разумею, чаму людзі, што прыходзяць да нашай суполкі, хутка пакідаюць яе. Далёка ня ўсе ўспрымаюць такое: "Рассуждать нужно диалектически, белорусский язык всё равно исчезнет". А я не хачу разважаць "диалектически", я хачу разважаць патрыятычна...

Ня буду забіраць ваш час сваёй малаграматнай пісанінай, прабачце, калі ласка, бо не вялікую адукацыю маю. Ды й не жывем мы на Беларусі аж з 1968 года, ня чуем жывога беларускага слова. А зь дзяцінства школьнага засталося ў памяці тое, што, здаецца, рабілася ўсё, каб мы, дзеці, забыліся на тое, што мы беларусы...

Ёсьць сярод нас некалькі сьвядомых беларусаў. З адным хлопцам мы рабілі некалькі спробаў павярнуць нашу суполку да нацыянальнай ідэі, абудзіць нацыянальную сьвядомасьць сяброў, але ўсё марна. І так будзе, пакуль будзе такое (камуністычнае) кіраўніцтва ў суполкі і такія іх "спонсары".

Падараваныя вамі кнігі я буду даваць чытаць толькі сьвядомым беларусам. Будзем рады, калі вы яшчэ раз завітаеце ў Крым. І ў Феадосію...

Да пабачэньня!

***Галіна Цімафееўна КРАСОЎСКАЯ***

# Характар важней за пасяўную...

***Старшыня Хоцімскага райвыканкаму Мікалай Чэпікаў абвесьціў своеасаблівую вайну калгасу "Чырвоны Маяк".***

Гэта адбылося пасьля таго, як калгасьнікі адзінагалосна абралі сваім старшынём Мікалая Какаткова – чалавека ім добра вядомага, які шмат гадоў працуе побач. Аднак папярэдне старшыня райвыканкаму прапаноўваў на пасаду новай аб'яднанай гаспадаркі, куды ўвайшоў "Чырвоны маяк", іншага чалавека. Правесьці гэта праз законны сход не ўдалося. Людзі выбралі ўсё ж М.Какаткова.

Дараваць людзям такія рэчы нашыя чыноўнікі ня ўмеюць. Спачатку ў кабінэце старшыні калгасу раптам адключыўся тэлефон. Потым яго з "тлумачальнай місіяй" наведаў *"лично"* старшыня выканкаму, а таксама начальнік міліцыі і кіраўнік раённай сельгасуправы. Яны адкрыта патрабавалі, каб М.Какаткоў добраахвотна пакінуў пасаду калгаснага старшыні. А калі ён на гэта не пагадзіўся, працаўнікам "Чырвонага маяку" перасталі завозіць паліва для трактароў і кармы для жывёлаў.

... Каля ста трыццаці калгасьнікаў бадзяюцца цяпер бяз працы.

***Алесь СЕРДЗЮКОЎ***



Фота IREX



МАСТАЦКАЯ ГАСЬЦЁЎНЯ “ТМ”

# Выйсьце з-пад ценю

***28-га сакавіка ў залі магілёўскага аддзяленьня Саюзу мастакоў Беларусі адкрылася выстава “Цені”.***

Адкрыцьцё сталася своеасаблівай прэзэнтацыяй новай грамадзкай арганізацыі “Магілёўская група мастакоў”. Цікава, што ў першапачатковым вырыянце назвы гэтай нядаўна зарэгістраванай суполкі творчых людзей было слова “гурт”, але чыноўнікі з упраўленьня юстыцыі заявілі, што такога слова ў беларускай мове няма. Мастакі не сталі асабліва спрачацца, бо аб’ядналіся, няхай сабе і ў “групу”, дзеля сяброўскага аднадумства, творчай рознасьці і прасоўваньня мастацтва ў “народ”, які сёньня мае відавочную патрэбу ў маральным апірышчы.

Самая выстава, дарэчы, пацьвердзіла той факт, што мастацкіх ідэяў у рэпрэзэнтантаў новай грамадзка-творчай суполкі хапае. Выкарыстоўваючы розныя стылі й фарбы, аўтары прадставілі гледачам “цень” у якасьці ня столькі фізычнай, колькі – філязофскай, псыхалягічнай, і нават – палітычнай зьявы. Агульная задума ўдалася праз спалучэньне традыцыйнага жывапісу Рыгора Шараева, дэкаратыўных карцін Валерыя Рабчонка і Ляніны Сіваковай, бэтонных ідалаў Андрэя Вераб’ёва й элегатнай драўлянай і керамічнай скульптуры Ўладзімера Пахоўцава. Вядомы магілёўскі скульптар Карней Аляксееў гэтым разам выставіў свой жывапіс ды інсталяцыі. Асаблівую ўвагу гледачоў прыцягвае ягоны твор “Славянскае трыо”, выкананы зь нямалым дамешкам скепсісу.

Аднак цэнтрам увагі на экспазыцыі сталіся тыя інсталяцыі, якія былі зробленыя калектыўна. Адкрыцьцё выставы аздобілі й жывыя інсталяцыі, што былі прэзэнтаваныя навучэнцамі вучэльні культуры.

А ўвогуле ініцыятар і кіраўнік новага гурту Юры Несьцярук і ўсе прысутныя на адкрыцьці выставы засталіся ўзаемна задаволенымі.

***Леанід АЛЯКСАНДРАЎ***
***Фота А.Ліціна***





# Бывайце, Край і Дудуткі...

***Яўген Будзінас, беларускі журналіст, аўтар папулярнай у апазыцыйным асяродзьдзі кнігі “Дураки”, былы кіраўнік выдавецкай фірмы “Полифакт”, стваральнік музэю беларускай культуры ў Дудутках, эміграваў у Літву.***



Днямі ён паведаміў, што Вільня вельмі зьмянілася ў добры бок з таго часу, калі ён быў у ёй апошні раз (некалькі год таму). Цяпер сп.Будзінас займаецца прыватным бізнэсам у літоўскай сталіцы, дзе рабіць гэта нашмат прасьцей, чым у Беларусі. “На мой погляд, цягам сямі з паловаю тыдняў працы я дасягнуў у сваім бізнэсе большага посьпеху, чым за 12 год змаганьня ў Беларусі”, – заявіў Яўген Будзінас.

... Можна парадавацца за Яўгена. Аднак нельга і схаваць шкадаваньня з нагоды таго, што яшчэ адзін неардынарны, інтэлігентны і таленавіты беларус пакінуў нашу краіну. Да лепшых часоў! – як пра гэта заяўляюць усе, хто па розных, а часьцей ужо па палітычных матывах пакідае Беларусь. На жаль, у нас не відаць рэальнага набліжэньня гэтых лепшых часоў. Можа, не ў апошнюю чаргу й таму, што пэрыядычна не вытрымліваюць нэрвы і сілы ў людзей, чые таленты, здольнасьці, веды і гатовасьць працаваць ня маюць ніякага запатрабаваньня на Бацькаўшчыне. Ці ня ёсьць гэта найбольшай віной рэжыму перад сучасьнікамі і нашчадкамі...

***Паводле “Белорусской газеты”***

# Знайшлі зачэпку

**Суд Цэнтральнага раёна Менску спыніў крымінальную справу супраць міліцыянтаў, якія мелі дачыненьне да трагедыі на станцыі мэтро “Няміга” 30-га траўня 1999г.**

Судзьдзя Пётар Кіркоўскі спыніў справу ў зьвязку з тым, што скончыўся тэрмін яе даўніны. Такім чынам намесьнік начальніка менскай міліцыі па грамадзскай бясьпецы Віктар Русак і начальнік аддзелу масавых мерапрыемстваў Міхаіл Кандрацін не былі пакараныя па абвінавачваньні ў службовай нядбайнасьці, у выніку якой тры гады таму загінулі 53 асобы, а больш за 200 чалавек атрымалі розныя пашкоджаньні.

Па меркаваньні праваабаронцы Алега Волчака, які займаецца высьвятленьнем гэтай справы, сьледчыя дзеяньні па ёй былі неправамоцна зацягнутыя, таму й скончыўся тэрмін даўніны.

***Паводле інф. агенцыяў***



# Аўто як паказчык эканамічнага лідэрства

**Рэкордных 111 мільярдаў крон (прыблізна 3 мільярды даляраў ЗША) дасягнуў экспарт легкавікоў з Чэскай рэспублікі.**

Гэта на 17 адсоткаў больш, чым у 2000г. Галоўным экспарцёрам была Нямеччына, куды адыйшло аўтамабіляў на 26,7 мільярды крон (на 1,5 мільярды болей за паказчык пазамінулага году). Наступнымі былі Брытанія (13,7 мільярды крон), Італія (9,6 мільярды), Славаччына (8,4), Гішпанія (6,5) і Аўстрыя (6,4).

У сваю чаргу імпарт легкавікоў да Чэхіі вырас на 13 адсоткаў (на 28,4 мільярды крон). Асноўнымі імпарцёрамі сталіся Нямеччына, Францыя, Бэльгія й Японія.

***Паводле Інтэрнэту***

**1780 маленькіх чытачоў вобласьці выпісалі дзіцячую газэтку “Несьцерка”! І гэта – цягам толькі аднаго месяцу падпіскі. “Белпошта” кажа, што газэтай цікавяцца і па-за межамі вобласьці.**



Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.
Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 14. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 04.04.2002 г. а 17.05